Чацьвер, 18 сакавіка 1920 г. Цана 2 маркі.

# Беларускае Жыцьцё

ІЛЮСТРАВАНАЯ ЧАСОПІСЬ

Год II. друкуецца ў Менску. № 7 (29).



## Беларускі Тэатр.

(1910—1920 г.)

Ў мінулым месяцы была дзесятая гадаўшчына беларускага тэатру.

12 лютага 1910 г. ў салі Жалезнадарожніцкага клюбу ў Вільні на Хэрсонскай (Вароняй) вул. быў наладжаны першы беларускі спэктакль.

Дастаўшы адбіты на літографе пераклад на беларускую мову пьескі Крапіўніцкага „Па рэвізіі“ і, згуртаваўшы кружок сьвядомых беларусаў, жменька людзей пачала працу.

У пьесе ігралі гэтакіе асобы: Бурбіс, Родзевіч, Мурашка, Арлоўскі, Корсак і Аляхновіч (рэжысэр).

Туляючыся па розных памяшчэньнях то рэдакцыі „Нашай Нівы“, то кніжніцы „Знаніе“, то інш. мы рабілі рэпэтыцыі. Работа кіпела, асабліва, калі мы бачылі гэтак сама энэргічную падгатоўку да спэктаклю хору пад кіраўніцтвам польскага композытара Рагоўскага, які вельмі цікавіўся беларускай песьняй і шмат зрабіў для беларускай музыкі, і балету пад кіраўніцтвам Ігната Буйніцкага.

Нарэшце прыйшоў дзень 12 лютага. Саля Жалезнадарожніцкага клюбу напоўнілася вялізнай грамадой народу. Тут было чуваць апрача беларускай—літоўскую, польскую і расійскую мовы. Тут зьявілося колькі і старых беларускіх сялян, якіе ад радаснай неўспадзеўкі са сьлязьмі на вачох глядзелі на сцэну, паўтараючы толькі слово: „добра! добра!“

Тысячная грамада народу чакала чагосьці новага. Першы раз павінна была паказацца перад шырокай публікай народная беларуская душа, явіцца ў сваіх песьнях, танцах, музыцы. Відаць было ў салі шмат хлапцоў, апранутых у беларускіе нацыянальные вопраткі: магілёўскіе і слуцкіе сьвіткі.

Праграма вечару пачалася спэктаклем. Ігралі „Па рэвізіі“. Потым завеса йзноў паднялася і выступіў беларускі хор з 46 асоб пад кіраўніцтвам п. Рагоўскага.

Вось як прыгожа апісывае першую беларускую вечарынку тагочасная беларуская часопісь „Наша Ніва“ (№ 8):

„Дзяўчаты зіхацелі пекнымі андаракамі, гарсэтамі, вышыванымі кашулямі, устужкамі, пацерками; на дзявочых галоўках былі пекна павязаны чырвоные хустачкі, белые намітки. Хлопцы бялелі ў магілёўскіх сьвітках, абшытых па краёх чырвоным шнурком і падпяразаных прыгожымі вузкімі і шырокімі беларускімі паясамі; на іншых былі беларускіе валеные шапкі. І паліліся хвалі тонаў песьні прад заціхшай у салі тысячнай грамадой...

„Чутно было ў песьні не разгул вялікароса с-пад Волгі, ня бойкую гульню паляка, але замкнутую ў сабе самой душу нашага беларуса з лясіста-балоцістай старой нашай бацькаўшчыны... Уся саля стала быццам бурным морам народным, уся траслася ад клікаў: „браво! браво, беларусы!“ Хору прыйшлося па колькі разоў пеяць некаторые песьні, што найбольш схапілі людзей за сэрцо і душу сваймі словамі, музыкай. Так віталі людзі ўсіх нацый беларускую песьню, каторая дагэтуль лілася і разьвівалася толькі на палёх і пералесках, а цяпер адразу выйшла на сьвет шырокі. Чуцен быў скрозь гоман: „мы ня ведалі, што ёсьць беларуская песьня і што яна асобная, свая, беларуская, мае свой дух“...

„Пачаліся на сцэне танцы: лявоніха, мяцеліца, юрка і верабей пад вясковую беларускую музыку. Трэба прызнацца, что яны ўдаліся на хвалу! Публіка проста адурэла... Ажно ў вачох зіхацело, як ішлі лявоніху, мяцеліцу, або як 10 пекна прыбраных пар завіваліся доўгім хвастом у „верабы“...

Гэтымі танцамі кіраваў Ігнат Буйніцкі.

Усе, хто папраўдзе цікавіцца грамадзкім жыцьцём, зьвярнулі ўвагу на першую беларускую вечарынку. Загаварылі аб ёй шмат і тагочасные віленскіе газэты.

Вельмі прыхільную для беларусаў рэцэнзію дала літоўская газэта „Viltis“.

Польская газэта „Kurjer Litewski“ пісала гэтак:

„На салі поўна... і горача. На падняцьце тэмпэратуры ўплывае відочна тое гарачае настраеньне, з якім публіка вітае кожны нумар праграмы... Відаць белые і шэрые сьвіткі, колеровые гарсэцікі—гэта невялічкая яшчэ жменька беларускай інтэлігэнцыі, прыбраная ў народны адзетак, вітае гасьцей, гэта гаспадары вечару.

„Скуль-жа гэтае гарачае настраеньне?

„Бо са сцэны плыве песьня, каторую пяюць рады згорбленых гаротнікаў, паступаючых пясчанай мяжой з сярпамі на плячох, якіе мігаюць бледным сьвятлом у праменьнях заходзячага сонца. Бо на сцэне пры сельскай убогай музыцы сунецца харавод, каторы гэтак часта кожны бачыў на дажынках ці іншым сельскім сьвеце, бо ўвесь гэты вечар абвеены той сумнотай, якая плыве з палескіх нізін, з пушч, ройстаў і бязьмежных лугоў. Бо загаварыла поэзія народу...

„Жменька людзей гарачага сэрца і добрай волі, каторые, не шкадуючы сіл і поту, працуюць над падняцьцем сваіх братоў, прыгатавала гэты першы паказ пакуль-што яшчэ не вялікага народнага багацьця. Іхні гарачы дух перадаўся публіцы і вызваў тое шчырае гарачае настраеньне, якое панавало праз увесь вечар.

„Праграма ня была лішне багатай... Ды ня сіліліся на над'звычайные рэчы. Далі з поўнай прастатой тое, што здолелі“...

Гэтак тады пісала адна з польскіх газэт.

Ня меней цікаўна—але з іншага боку—голас расійскай газэты, выдаванай за казённые грошы „Виленскій Вѣстникъ“. Рэцэнзэнт скрыўдзіўся, што на беларускай вечарынцы артысты былі ў беларускіх вопратках, а не ў маскоўскіх,—а ў магілёўскіх сьвітках дагледзіў навет... польскіе кунтушы! Дый ува ўсёй стацьці „В. В.“ відаць адну мэту: зганьбіць беларускі рух, зрабіць яго „польскай інтрыгай“.

Хутка пасьля гэтага (19 лютага) наладзілася першая беларуская вечарынка ў Пэтэрбургу, дзе йгралі гэтую-ж самую камэдыю „Па рэвізіі“, пяяў хор, дэклямавала свае вершы беларуская поэтэса „Цётка“ (Кэйрысава), танцавалі беларускіе танцы.

У гэтым-жа самым месяцы (22-га) ў Вільні наладжываецца этнографічны вечар-концэрт, у якім прыймаюць учасьце і беларусы,—і з гэтага часу беларускае слово чуваць усё часьцей ды часьцей са сцэны і з эстрады.

Сьвяткуючы сёлета дзесятую гадаўшчыну беларускага тэатру, варта кінуць вокам назад і зрабіць агляд мінулай работы. Беларускі тэатр доўга ня выходзе з фазы аматорскіх спэктакляў. Аднак ён знаходзіцца ў зусім іншых варунках чымсе іншые аматорскіе дружыны. Тут няма ні рэпэртуару, ні артыстычных сіл, ні сцэнічных традыцыяў. Трэба ўсю работу рабіць ад пачатку.

Але жменька людзей робіць сваё дзело. Власт перарабляе на сцэну Ожэшковай повесьць „Хам“ і апавяданьне „Ў зімовы вечар“. Карусь Каганец піша свой сцэнічны жарт „Модны шляхцюк“, Купала—сваю „Паўлінку“. Іншые пачынаюць перакладаць сцэнічные творы з іншых моваў. Ігнат Буйніцкі організуе першы аб'ездны тэатр і з гэтымі пьесамі едзе на провінцыю. Ў Вільні організуецца беларускі музыкальна-драматычны гурток.

Вайна на нейкі час спыняе беларускую тэатральную работу. Ваенная завіруха параскідала нашу інтэлігэнцыю, нашы культурные установы. Шмат беларусаў, адарваўшыся ад спакойнай карыснай работы, пайшло не па сваей волі цягнуць салдацкую лямку.

Ў часе нямецкай окупацыі беларускі тэатр у Вільні ізноў ажывае. Ізноў паклíканы да жыцьця музыкальна-драматычны гурток далей вядзе часова спыненую працу. Ня гледзячы на цяжкіе эконамічные варункі часаў нямецкай окупацыі, работа ідзе энэргічна, людзі ахвотна зьбіраюцца на рэпэтыцыі. Стары рэпэртуар ужо не здаволівае. Год за годам паяўляюцца новые пьесы, каторые часова супакоіваюць рэпэртуарны голад (Ф. Аляхновіча: „На Антокалі“. „На вёсцы“, „Бутрым Няміра“, „Манька“, „Калісь“ і інш).

Тэатр у Вільні здабывае сабе сталае памяшчэньне: ў 1916 г. організуецца беларускі клюб, каторы аддае сваю сцэну ў распараджэньне драматычнага гуртка. Час ад часу наладжываюцца для шырокай публікі вялікшые спэктаклі, для якіх сцэнка беларускага клюбу за-малая. Тады карыстаюцца вялізным памяшчэньнем цырку на Лукішскім пляцу або саляй Жалезнадарожніцкага клюбу (дзе быў першы беларускі спэктакль). Грамадзянскае жыцьцё патроху пачынае разьвівацца. Сіламі драматычнай дружыны організуюцца ў беларускім клюбе вечары-кабарэ для запрошанай публікі.

З другога боку фронту—ў Менску таксама пачалася тэатральная работа. Тут расійская рэволюцыя адразу збудзіла нацыянальнае жыцьцё. Хутка з'організавалося „Першае таварыство драмы і камэдыі“, на чале каторага як рэжысэр стануў энэргічны і здольны Фл. Ждановіч. Тут гэтак сама адчуваецца голад рэпэртуару, і гэты голад супакоівае Ул. Галубок, перарабляючы свае старые апавяданьні на сцэнічные творы, або пішучы зусім новые пьесы. Склікаецца ў Менску Ўсебеларускі Зьезд. „Першае т-во“ ладзіць спэктаклі ў гарадзкім тэатры, карыстаючыся кожны раз вялізнай фрэквэнцыяй публікі *).

*) Увадным з чарговых нумароў „Б. Ж.“ памесьцім фотографію групы сяброў Т-ва і тады дамо больш дэтальную характэрыстыку дзеяльнасьці яго.

Аддзеленые ад сябе лініяй фронту два беларускіе тэатры нічога адзін аб адным ня ведаюць, тым больш ня могуць дзяліцца сваім рэпэртуарам, пакуль немцы не занялі Менску.

У 1918 г. „Першае Т-во“ перамяняе сваю назову на „Беларускі Дзяржаўны (!) Тэатр“ і пад гэтай фірмай іграе месяц ці паўтара. Ў гэтым-жа самым 1918 г. ў Вільні тэатральная работа на нейкі час спыняецца, затое ў Менску адначасна пачынаюць працаваць два тэатры: „Беларускі Народны Тэатр“ пад кіраўніцтвам Ф. Аляхновіча і „Першае Т-во драмы і камэдыі“ пад кіраўн. Фл. Ждановіча. Абодва іграюць па чарзе ў адным памяшчэньні—ў „Беларускай Хатцы“ на Конскім пляцы *). Хаця „Хатку“ нельга назваць адпаведным дзеля гэтай мэты памяшчэньнем, хаця прымітыўнасьць сцэны і ўбогасьць дэкорацыі і не пазвалялі назваць „Хатку“ тэатрам, хаця адміністрацыя „Хаткі“ ня рупіцца аб тым, каб памагчы маладым тэатральным установам, а глядзіць на іх толькі, як на *дойную карову*,—аднак абодва тэатры працуюць побач сябе згодна, разьвіваюцца, зьбіраюць шмат публікі, асабліва дробнамяшчанскага элемэнту з ваколіц Старажоўкі.

Перад прыходам бальшавікоў абодва тэатры зьліваюцца ў адзін. Бальшавікі з гэтых артыстычных сіл організуюць „белорусский советский театр“, у пачатку багата субсыдыяваны, каторы разам з хорам Тэраўскага і оркестрам Тхоржа ў працягу 2-х месяцаў дае сьцяг спэктакляў, іграючы 3—4 разы ў тыдзень. Але гэты „расьцьвет“ тэатру трывае нядоўга. Бальшавіцкая паліцыя кожны вечар у салі тэатру робіць аблаву на „контррэволюцыянэраў“, а ў канцы канцоў на самую сцэну пачынае глядзець, як на „гнездо шовинизма“. Аднаму-другому з артыстаў прыйшлося начаваць у чрэзвычайцы, іншые бачучы, што справа тэатру дрэнная, уцяклі з Менску,—тэатр разваліўся.


Драматычны Гурток пры Т-ве Ахвотнікоў Беларускаго Народнаго Штукарства ў Петраградзе - 1918 г.
Dramatyčny Hurtok pry T-wie Achwotnikoŭ Biełaruskaho Narodnaha Štukarstwa u Pietrahradzie - 1918 hod

З прыходам у Менск польскай улады, організуецца „Таварыство Мастацтва“, каторае, гуртуючы каля сябе раскінутые сілы, далей вядзе тэатральную работу. 26 сьнежня 1919 г. адчыняецца Беларускі Тэатр пад дырэкц. Аляхновіча, які йграе дагэтуль у Гарадзкім тэатры. „Таварыство Мастацтва“, заняло старую „Хатку“, зрабіло рэмонт сцэны і ўжо пачало працу ў новым сваім памяшчэньні.

Кажучы аб беларускім тэатры, нельга прайсьці моўчкі каля хору Тэраўскага. Нядаўна мы пісалі кароткі нарыс яго паўстаньня, цяпер адзначым толькі тое, што хор сыграў вялізную ролю ў гісторыі беларускага тэатру. Песьня—асалода гаротнага жыцьця нашага селяніна—займае многа месца ў нашым драматычным рэпэртуары. Хор Тэраўскага заўсёды працаваў у контакце з беларускім тэатрам. Раней з „Дзяржаўным“ (!), пасьля з „Народным“, далей з „Савецкім“, цяпер—з „Таварыствам Мастацтва“.

Цэнтрам беларускага культурнага руху цяпер ёсьць Менск. Тут цяпер концэнтруецца і ўся тэатральная работа. Апроч гэтага з усіх кутоў Беларусі даходзяць весткі аб наладжываньні аматорскіх спэктакляў.

Зусюль нясецца ў Менск кліч: „давайце нам рэпэртуар! дайце нам тэатральную літэратуру!“ Беларускіе пісьменьнікі пачынаюць ўсё болей і болей пісаць для сцэны. Ведама, з цяперашняй навалы твораў, калі іх прасыплюць праз сіта крытыкі, мала ўвойдзе ў тэатральную літэратуру,—усё-ж такі творыцца той матэр'ял, той, можна сказаць, гной, на якім з часам закрасуюцца кветкі вялікай сцэнічнай пісьменнасьці.

Цяпер колькі слоў аб працаўніках сцэны—аб беларускіх артыстах. Іх зрадзіла ня школа, але само жыцьцё, гарачае каханьне роднай справы. Першые беларускіе арты-

*) Гарадзкі тэатр быў заняты расійскай трупай.

сты—гэта ахвярные працаўнікі, якіе не шкадуючы сваіх сіл, свайго часу, з энтузыязмам браліся за работу, веручы ў трыумф сваей ідэі. Між сёньняшнімі тэатральнымі працаўнікамі ёсьць людзі, якіе працуюць ад самага пачатку беларускага адраджэньня. Апрача іх ёсьць такіе, якіе, ня маючы сваей беларускай сцэны, прымушаны былі туляцца па чужых: польскай, украінскай, расійскай. Цяпер яны варочаюцца пад знак сваей роднай Мэльпомэны.

Гэткім чынам тэатр наш выйшаў з фазы аматорскага тэатру і зрабіўся сапраўдым, зложаным з професыянальных сіл, тэатрам.

Мы верым, што калі мы перастанем быць гасьцямі ў сваей хаце, а будзем яе гаспадарамі, разам з усялякім культурным жыцьцём пачнецца расьцьвет і беларускага тэатру.

З гэтай верай пачынаем адзінаццаты год нашай працы.

**Ф. А.** Ф. Алехновіч

## Чаму яшчэ няма беларускага раману?

Шмат хто пытаецца, чаму яшчэ няма беларускага раману. Вядомая рэч, што раман—гэта самы грунт кожнай літэратуры. Ў рамане адбіваецца цэлае моро народнага жыцьця, малюющца эпохі, на фоне дзеяў выступае гісторыя, зэніт ідэй красуецца рэльефна; клясавы быт астаецца ў рамане для далейшых пакаленьняў. Словам, раман—вышэйшы пункт кожнай літэратуры, а беларуская літэратура яшчэ раману ня мае.

Ставіць нам гэта ў дакор нельга. Беларуская літэратура яшчэ вельмі маладая. Вядома, што кожная літэратура пачынаецца з поэзіі. Так-сама і нашая літэратура стаіць у гэтай стадыі. Ад 1906 г., калі пачала друкавацца беларуская часопісь, у нас зьявіліся такіе поэты, як Якуб Колас, Янка Купала, Максім Багдановіч і інш., якіе мелі-бы пачэснае месцо ў любой літэратуры. Пасьля іх зьявіліся і другіе поэты, болей-меней выдатные ў сваёй творчасьці. Але што тычыцца прозы, дык справа стаіць ня так добра. Хаця побач з поэтамі зьявіліся ў нас і прозаікі, як Тарас Гушча, Ядвігін Ш., Я. Лёсік М. Гарэцкі, Власт і іншые, але далей новэльляў, кароткіх імпрэсіяў і нядоўгіх апавяданьняў яны ня йшлі.

Беларускіе прозаікі малявалі ў сваіх творах гаротнае, цёмнае жыцьцё сялян. Па большасьці выступалі героямі пьяніцы, або людзі, якіе сваей цемнатою ўзбуджалі сьмех чытачоў, прымушалі задумывацца над гаротным жыцьцём абяздоленага беларускага народу. Часам творы гэтые блішчэлі пекнымі барвамі лірыкі, вызначаўся орыгінальны стыль у народных казках і гістарычных лягэндах і інш; алё далей гэтага яны ня йшлі. Гэта толькі яркіе зоркі, якіе блішчаць на нашым літэратурным небасхіле, але сонца ў нас яшчэ няма—няма беларускага раману.

Ці-ж у нашым жыцьці няма грунту для раману?—

Ёсьць і ёсьць. Матэр'ялу для раману можна знаходзіць на кожным кроку. Можна дзяліць гэтые матэр'ялы на тры галоўные аддзелы: гісторыя, сялянскі быт эпоха адраджэньня.

Гісторыя дае нашым пісьменьнікам бязьмежны матэр'ял для творчасьці. Жыцьцё нашых князёў, росквіт нашай стcarадаўняй культуры; нашые багатые летапісы, паганская вера і поэтыцкая, патрыярхальнае жыцьцё нашых прашчураў, нашая зямля, дзе кожнае старое замчышчо, кожны курган, рэчка, камень, лясок, горка, даліна—маюць свае казкі-лягэнды. Ўсё гэто чакае свайго таленнага майстра, які-бы гэта авекавечыў у належных абразох, які-бы гэта сілай сваей фантазіі, сваім творчым духам выклікаў-бы да жыцьця, мастацкімі абразамі якога былі заваражаны дзесяткі тысяч людзей.

Сялянскі быт, так-сама, толькі зьверху здаецца няцікавым. Але як мы глянем на яго болей пільным вокам, дык знойдзем багатые скарбы, моцны грунт для раману. Тут бурліць асобнае жыцьцё, якое багато сваім першабытным славянізмам. У душы селяніна хрысьціянская рэлігія пераплялася з вераю ў багі паганых часоў, у пекные узоры—орнамэнты. Убіваньне сьвядомай нацыянальнай думкі праз русыфікацыю і полёнізацыю цэлымі вякамі, аднак да поўнай мэты моцных братоў нашых не давяло нашае сялянство, у сэрцы якога падсьвядома жыве самабытны індывідуалізм, яго толькі зрабілі „тутэйшым“ чалавекам, а не паляком ці расійцам, як гэта жадалі нашые ворагі. Потым трэба зьвярнуць увагу на асобны уклад штадзеннага жыцьця нашага народу, які рэльефна адмалёваны у нашых народных песьнях, казках, лягэндах, забабонах, пагаворках і інш., што толькі мала-інтэлігэнтным людзям здаецца цемнатою. Людзі цывілізованые знаходзяць у гэтым вялікіе вартасьці беларускай душы, якая розьніцца ад іншых. Гэто ўсё так просіцца на палатно маляра. Гэта так і чакае раманістага, які праз прызму сваей дазорнасьці і прыкмячаньня патрапіў-бы даць нам галерэю жывых тыпаў у зграбным рамане.

Эпоха беларускага адраджэньня за апошніе два дзесяцьлецьці дае так-сама багаты матэр'ял у гэтым кірунку. Тут мы бачым новую страніцу нашай гісторыі, сьветлы одблеск нашага духу, які патрапіў перамагчы ўсе труднасьці і перашкоды, прачнуўся пасьля свайго векавечнага сну і пайшоў змагацца за сваё лепшае жыцьцё, паказываючы, што ён ня горшы за ўсіх. Вялікая вера ў сваю сьвятую ідэю, што даходзіць часам у некаторых з лепшых сыноў Беларусі да фанатызму, выяўленьне свайго „я“ ў шырокім значэньні гэтага слова, бязупынная барацьба, безкарысная, шчырая праца і г. д. далі цэлую колекцыю тыпаў, якіх можна выкарыстаць у літэратуры. Гэта бязумоўна і трэба рабіць. Поле для працы шырокае.

Гэта—тры галоўные аддзелы для беларускага раману, ёсьць і яшчэ шмат грунту для яго: кожнае жыцьцёвае зьявішчо можа быць выкарыстана для сочных фарбаў, для кемнага пэндзаля ў вялікай повесьці. Трэба толькі умець да ўсяго прыглядацца і ўсё выкарыстаць. Аб чым пісаць ёсьць і ёсьць. Можна на кожным кроку даць у пісьменстве цэльны, самабытны беларускі тып, які пакуль што ў нашай літэратуры знаходзіцца ў форме нарысаў, штрыхоў, сальвэткаў, дзе ўсё гэта аднабока і недакончана.

Тое, што мы бачым у нашых большых празаічных творах—у пьесах так-сама нас не ўздаволівае: там мы знаходзім ненормальные скокі

ад вульгарных пьяніц да футурыстаў—нэўрастэнікаў. Гэта, трэба прызнацца, далёка ад праўдзівай псыхікі нашага народу. Гэта толькі уплыў чужых культур—расійскай, або польскай, пад якімі прыходзілося гадавацца кожнаму з нас. Брак знаёмства з нашай гісторыяй, з нашай народнай душой, няпільнае прыгляданьне да нашай сучаснасьці вінаваты ў гэтым.

Гатовая духоўная страва, падсунутая нам чужымі панукочымі ў нашым краі народамі паслужыла прычынай таму, што навет нашым пісьменьнікам здавалося і здаецца, што аб чымбы не хацелі пісаць, дык усё акажацца перапевамі, ўсё ўжо нібы выкарыстано было другімі. Гэты фальшывы, безварункова, погляд шмат перашкаджаў. Выхаваньне на чужых літэратурах, штуд'яваньне іх школаў ступнёва ад першага романтызму да модэрнізму і футурызму разьдзяліло нашых пісьменьнікаў на два крайніе лягэры: грубага рэялізму і замысловатага модэрнізму. Гэта напамінае тую няўмела спечаную бульбу, якая з аднаго боку перапечана на попел, а з другога боку зусім сырая. Заўсёдные спрэчкі між сабою гэтых двох кірункаў не дапамагалі нормальнай творчасьці. Адны ў літэратуры шукалі чыстай ідэі, народніцтва, навет агітацыі за беларускую справу, а другіе глядзелі на літэратуру як на мастацтво, як на штуку для штукі ды й толькі. Гэто не дало сярэдняга пункту апоры і нашые пісьменьнікі глядзеўшы праз акуляры чужых літэратур на беларускую творчасьць, і ня ведаючы за што хапацца пэўнымі рукамі, не маглі выкарыстаць сваей здольнасьці да працяглай літэратурнай працы, не хапало сілы, і яны працавалі адрывачна: напісаў верш, поэму, кароткае апавяданьне, драматычны эскіз і годзе. Гэта шмат лягчэй, не вымагае такой вялікай напружнасьці і цярпеньня, як повесьць, або раман.

А самай важнай прычынай чаму ў нас яшчэ няма раману служыць тое, што, бадай, усе нашые пісьменьнікі самавучкі, дзеці сялянскіе, апроч расійскай, або польскай мовы, ня ведаюць загранічных моваў і яны знаёмы з клясычнымі літэратурамі Эўропы толькі з перакладаў і гэта мала дапамагае разьвіцьцю іх творчасьці, не пашырае кругазору, не паказывае мастацкіх літэратурных узораў у натуральным велічы сваім. Потым варункі жыцьця, матэр'яльные недахваты, шуканьне кавалка хлеба не дазваляе засесьці на доўгі час над капітальнай працай. Будняе жыцьцё не дае ім магчымасьці карыстацца і даступнымі ім кнігамі ў расійскай, або польскай мове. Будняе жыцьцё забівае ў іх тую энэргію і здольнасьць, якую яны маглі-бы выкарыстаць на стварэньне, большае за верш, ці за кароткае апавяданьне.

Зьяўляецца пытаньне, чаму аднак болей-меней людзі ў нас пробавалі свае сілы над драмай, якая так-сама ёсьць рэч, вымагаючая шмат працы і часу? Але тут ўсё нашае сьвядомае грамадзянство крычало, што нам дазарэзу патрэбна драма, дзеля агітацыі, дзеля жывых мэтаў нашага адраджэньня. І ў драматычнай нашай творчасьці відаць ліхарадачнасьць, пасьпешнасьць і ня ўсюды ўдачнасьць. Рабілі пераклады з чужых моваў, пісалі свае, але аднак, зноў-жа, кепскіе варункі жыцьця, пры якіх працавалі нашые артысты, зрабілі тое, што добрай беларускай драмы яшчэ ў нас няма. Але дзякуем за тое, што нашымі працаўнікамі хоць што колечы зроблено ў гэтым кірунку, так-сама мы павінны быць удзячны тым, якіе голасна казалі, што нам патрэбна драма.

Што тычыцца раману, дык, як памятаецца мне, адзін толькі М. Гарэцкі напамінаў, што у нас яшчэ няма добрай прозы і сам пачаў у гэтым кірунку працаваць. А даць напрамак нашым пісьменьнікам на гэтым шляху павінна была наша крытыка, якая або толькі ганіла, або толькі хваліла творы нашых пісьменьнікаў, характэрызуючы іх вельмі коратка, бадай двума словамі: „добра“, „кепска“. Наша крытыка не паказывала пісьменьніку дарогі, куды яму ісьці, што яму рабіць, дзе лепей выкарыстаць свае сілы. І гэта ўсё не дапамагло ў стварэньні беларускага раману.

Ці мы ва ўсім гэтым вінаваты?—Не. Вінавато нашае гаротнае жыцьцё, варункі нашай справы, якая вымагае шмат рук для працы, дзе кожны з нас прымушаны брацца за некалькі спраў, пры самых кепскіх матэр'яльных варунках. І тое, што зроблено дагэтуль за апошніе два дзесяткі гадоў у нашай літэратуры, можна лічыць досіць многім у параўнаньні з тым, як тварыліся і творацца літэратуры наогул. Калі мы глянем на літвіноў, украінцаў, латышоў, чэхаў і іншых народаў, якіе жылі пры гэткіх варунках, як і мы, дык можам сказаць, што наша літэратура ня горшая за іх. У іх так сама істнуюць тые самые труднасьці, што не даюць па заказу, разьвівацца творчасьці мастацкай, якая пры нормальным і вольным жыцьці творыцца вякамі.

Раман у нас будзе, ў гэтым няма чаго і сумлявацца, але да яго трэба падыходзіць нормальнымі ступнямі, вядомымі крокамі, якімі падыходзілі да яго другіе народы пры лепшых за нашые варункі політычнага і эконамічнага жыцьця. Мы тут паказалі прычыны чаму няма беларускага раману тым людзям, якіе ставяць нам гэта ў дакор, як вінаваценьне, якіе ня хочуць знаць нормальных законаў у ходзе разьвіцьця культуры і жыцьця.

З. Бядуля.

## Гурло.



Гурло — малады беларускі пясьняр, вершы якога друкаваліся ў „Нашай Ніве“, „Маладой Беларусі“ і іншых беларускіх часопісях да 1915 г.

У той час, калі—большасьць беларускіх поэтаў у сваіх творах у цёмных фарбах малявалі гаротнае жыцьцё беларускага земляроба, Гурло вызначаўся сваімі вясёлымі сонечнымі мотывамі, якіе энэргічна клікалі да волі да змаганьня з цемрай. Колёрыт яго вершаў—сонечнае небо без хмарак, птушка-арол у вышыне, а пад імі ясна срэбны ручай, абшар зялёных лугоў, моцны вецер і г. д., дзе ўся гэткая абстава кліча да радасьці і шчасьця.

Ў 1915 г. Гурло пайшоў на вайну, а дзе ён цяпер знаходзіцца—ня ведаем.

## Алесь Гарун.



Алесь Гарун—сын беднай сямьі м. Менску. За учасьце ў рэволюцыі 1905 г. ён сядзеў некалькі гадоў у турме і потым быў высланы назаўсёды ў Сібір. Адтуль ён пачаў прысылаць у беларускую часопісь „Наша Ніва“ ў Вільні свае вершы ў беларускай мове. З самага пачатку яго вершы вызначаліся орыгінальнай формай, агнёвым закаханьнем да Бацькаўшчыны, далікатнымі мотывамі, і пекнымі малюнкамі прыроды.

Пасьля рэволюцыі 1917 г. А. Гарун вярнуўся з Сібіру на Бацькаўшчыну, дзе ён пачаў прыймаць вялікае учасьце ў беларускім політычна-грамадзянскім жыцьці.

Ў 1918 годзе ён рэдагаваў першую штадзенную беларускую газэту „Беларускі Шлях“. У тым-жа годзе вышаў з друку зборнік яго поэзіі „Матчын дар“, якім ён сабе заваяваў пачэснае месцо ў беларускай літэратуры.

## Шлюб.

*„Год за годам, дзень за днем,*
*„—Усьцяж—гадзіну за гадзінай,*
*„Паміж песьняй салаўінай*
*„І агідных жабаў крэктам,*
*„Выцьцем буры, ветра шэптам*
*„І касы сьмяртэльнай сьвістам,*
*„У бляску полымя агністым*
*„Мы да шлюбу сваго йдзем...*

*„Мусіць скора... Пэўне блізка,*
*„—Чую я ужо гэты час.*
*„Поўны шчасьця і пакрас—*
*Дзен парвецца нашых нізка*
*„Дзен затрутых сольлю згуб—*
*„І няпомные былога*
*„Учуўшы голас горніх труб*
*„Пойдзем, люба, мы да Бога*
*„Браць апошні, вечны шлюб“.*

12/X. 18 г. **А. Гарун.**

## Разгон.

*(У с п а м і н).*

Адчыніліся дзьверы „дарадчага пакою“ ў б. Шляхоцкім Доме і адтуль пачалі выходзіць сябры Рады Зьезду—прадстаўнікі ўсіх групаў, ўсіх часткаў Вялікага Народнага Сходу—Першага Ўсебеларускага Зьезду.

Там—у дарадчым пакоі была іх парада аб тым, каб з гурбы рэзолюцыяў: зямлячаставў, фракцыяў, сэкцыяў, партыяў, стварыць нешта моцнае, зьліць гэтые дробные рэзолюцыі і жаданьні ў вадно ды вынесьці на зацьвярджэньне ўсяго Зьезду.

Пасьля доўгіх спрэчак, гоману, крыку, папраўак, дадаткаў і г. д. агульная рэзолюцыя была знойдзена і настаў рашучы момэнт: адважна, голасна абвясьціць свае жаданьні, сваю сувэрэннасьць і здольнасьць да дзяржаўнага жыцьця.

Заля сьціхлася; назначаны фракцыйные і групавые аратары дзеля пунктоўнага паясьненьня рэзолюцыі. Яна агалошана Старшынёю адзін і другі раз. Ўносіцца й прыймаецца спакойна пропозыцыя аб галасаваньні рэзолюцыі па пунктах. Ўрачыстые мінюты! Бязсьмертны момэнт ў жыцьці нацыі!

Гэта было ў Менску - Беларускім ў рок ад Хрыстовага Нараджэньня тысячу дзевяцьсот семнаццаты ў месяцы Сьнежні ўночы з 17 на 18 яго дзень, пасьля першае гадзіны па поўначы. Надходзіла гістарычная часіна – палова другой гадзіны. Сярод сьвяточнага настрою Вялікага Сходу прашарахцела нейкая трывога, ўсе крыху замітусіліся, напружыўшы нэрвы. Пісар голасна пачынае агалашаць першы пункт рэзолюцыі—прадмову да яе. А пунктаў ўсіх—пятнаццаць. Да стала прэзыдыуму падыходзяць дзьве фігуры ў шэрых салдацкіх шынэлях: міністры... гэнэралы, але, гледзячы на іх, здаецца, што гэта ўсё байка, так мала яны падходзяць да сваіх гэркулесавых роляў. Адзін з іх ў новай шапцы з надта доўгім брылём, з такімі-ж доўгімі чорнымі вусыма, ідзе арлом — гэта начальнік Менскага гарнізону і тымчасовы (за выездам „праўдзівага“ „Главкозап“ (глаўнакамандуючы Заходнім фронтам) „гэнэрал-ад-рэвалюцыі“ Крывашэін; другі ў стаўбунаватай шапцы з нейкае рыжае скуры ліса, ці медзьвядзя—Народны Камісар Унутраных справаў Заходняй області і фронту „гэнэрал-ад-Земсаюзу“—Рэзаускі. Падыходзіць за імі і становіцца з левага боку ад стала Прэзыдыуму трэйцяя фігура, баявая ў зімовай белаватай шапцы з шашкаю з левага боку й „наганам“ з правага, выбрытая, чырвоная, ад'еўшаяся морда, кароценькі да каленкаў ні то фрэнч, ні то шынэль,—тыповага бальшавіцкага кшталту вопратка,—ва ўсім грубасьць, дзіч, малакультурнасьць. Гэта—камандзер „Першага Рэволюцыйнага палку імя Менскае Рады Работніцкіх і Салдацкіх Дэпутатаў“—таварыш Рамнёў. Фігура Рэзаускага зьнімае з галавы зьвярыную смушку і штось ціха гаворыць Прэзыдыуму.

Старшыня трэбуе дакумэнтаў, хто яны такіе гэтые фігуры. Рэзаускі не ўстаіць на месцы, размахвае праваю рукою (пад леваю пахай портфэль і шапка), а фігура Крывашэіна, ня зьнімаючы свайго доўгага брыля, сіпліва, нібы з прабітым горлам, прабуе крычаць: „Я начальник гарнизона“... ды яшчэ нешта, але сіплівасьць не пазваляе разыйсьціся, як ён хацеў-бы, ды й, да таго замітусілася мацней заля, чуваць протэсты.

Пасьля крыху сьціхае гук і Старшыня дае слова „начальніку гарнізону“.

Ізноў сіплівасьць, кепска чуваць, язык заплятаецца, штось няздатна. Чутно толькі:... „подъ видомъ мягкихъ лайковыхъ перчатокъ, подъ видомъ мягкой пуховой постели“...

Відочна пьяны начальнік гарнізону, опэрэтачны „Главкозап“; фігура народнага камісара Рэзаускага, больш адукаванага, сама нездаволена ахінэяй „таварыша Крывашэіна“, моцна „дзюбнуўшага“ й мала адукаванага.

Крывашэін на пропозыцыю Старшыні й галасы з залі аб тым, каб зьняць шапку, нязграбна й паволі бярэцца за брыль, скідае з свае чорнае

галавы „ваяводзкі ківер“ і, глянуўшы на Старшыню, мармыча, як праз сіто: „Призываю президіумъ къ... порядку“...

Фігура Рэзаускага, бачучы, што стрымаць „Главкозапа“ не ўдаецца, сама прапануе прэзыдыуму: „Лишите его слова“... А Рамнёву, тым часам, прыказывае ўвясьці ў залю „таварышоў— ваякоў Першага Рэволюцыйнага палку“.

Паслухмяны Рамнёў зараз-жа праціскаецца праз шчыльную масу нашых салдатаў і сялян— сяброў Зьезду, рвецца да стала, каб арэштаваць прэзыдыум, як агаласіў Рэзаускі, што ён распушчае Зьезд, а прэзыдыум абвяшчае арэштованым. Рамнёў паднімае ў гару наган, паціскае курок але штось пстрыкае й ня паліць.

Усё завалтузілося, загаманіло, нібы пчолы ў вульe—пайшла праўдзівая барацьба ўзброеных і безаружных шэрых фігураў між сабою. Некаторые з сялян пахаваліся ў кутках, але адважная іх большасьць зьмяшалася разам з шынэлямі і шчыльнаю сьцяной забараняе „рэволюцыйнаму палку“ дарогу да Прэзыдыуму“

Адзін селянін, стаўшы на крэсло з каменнаю аратарскай адвагаю шле праклёнствы збройцам, паказваючы свае мазольные далоні. Яго не чапаюць „ваякі“, не глядзяць на яго. Некаторые з сялян з халопскай пакорнасьцяй моляць і просяць каб іх выпусьцілі, бо яны, вось, не разумеюць, што гэта робіцца, бо, кажуць, яны не вінаваты. І апынуўшыся ўжо каля дзьвярэй Крывашэін літасьціва пацягвае іх за рукавы: „Проходите... проходите“...

Прэзыдыум арэштованы. На яго месцы брытаюцца „таварышы“ са стрэльбамі ў руках Прэзыдыум выводзяць. Раздаўся дружны сьпеў „Марсэльезы“, ў другім рагу сьпяваюць пабеларуску: „Ад веку мы спалі“...

Абодва гімны зьліваюцца ў рашучы гром адвагі й барацьбы... Загрукаталі крэсламі... У мінуту зьяўляецца новы Прэзыдыум... Растуць барыкады пасярод залі; з аднаго боку барыкадаў, пад гром гімнаў, новы прэзыдыум абвяшчае рэзолюцыю протэсту, з другога боку бальшавіцкіе гэнэралы абмяркоўваюць свае стратэгічные дзеі.

Больш ніхто ўжо не пакідае сходу, ўсе цеснаю грамадой стоўпіліся за барыкадамі, слухаючы рэзолюцыю протэсту. У гэтай масе зьядналіся і левые і правые, і фракцыі, і зямлячаствы ў вадну моцную грамаду адважных рэволюцыянэраў.

Спробы „гэнэралаў“ „отозвать товарищей большевиковъ“ не ўдаюцца. Гэтые беларускіе „большевики“ наймацней протэстуюць. Стратэгія простая: Крывашэін камандуе зараз-жа арэштаваць—вунь гэтага кудлатага (старшыню новага прэзыдыму). Ізноў атака... грукат крэслаў... „полк“ разьбірае барыкады, абаронцы барыкадаў іх ізноў складаюць—йдзе нейкая бесканечная работа. Грукат заглушаецца новым громам гімнаў. „Полк“ адхлынуў назад да дзьвярэй... Кінуўшыся ўперад, Рамнёў ізноў вядзе яго ў атаку... Лезуць праз барыкады, хватаюць новы прэзыдыум, хватаюць, каго могуць, ды выпіхаюць у дзьверы.

У новым прэзыдыуме паненка... Яна бье па мэфістофэлевым твары Крывашэіна... Крык... гоман... гукі жалобнага маршу.

Нехта папхнуў мяне на Крывашэіна, той пацягнуў мяне за рукаў: „Проходите“...

Я вырваўся ад яго, відочна праканаўшыся, па гарэлачнаму ад яго паху, што ён, як мае быць, пьяны... Зразумеўшы, што далейшая барацьба— напрасная. Сход выходзіць ў дзьверы, сьпяваючы „Жалобны марш“. “Полк“, акружыўшы ўсіх, падпіхае з-заду ў дзьверы.

Заля паволі апаражняецца. Пачало крыху днець. Выйшаўшы на вуліцу я ўбачыў нейкіх „рыцараў“ на сівых конях—чалавек каля дваццацёх і два панцырных самаходы з кулямётамі.

Сход направіўся за арэштованымі па Падгорнай вуліцы да Комэрчаскай школы (Штабу Рады Народных Камісараў). Я зірнуў на гадзіньнік: было ўжо пяць гадзін ранку 18 сьнежня.

Вялікі Сход быў разагнаны за.. „контррэволюцыйные мэты“.!? „Контр-рэволюцыянэры“ пацягнуліся „да штабу рэволюцыі“ сьпяваючы... Што-б вы думалі?.. Сьпяваючы рэволюцыйные гімны...

У душы ня было жалю, што так сталося. Чулася энэргія, жаданьне барацьбы, чулася непакарымасьць праўды.—бязьсмертнасьць ідэі Вялікага Сходу!

26 мая 1918 року
Менск.

**Краўцоў Макар.**

# Пахаваньне.

*Пахаваў я сярод зломy*
*У пушчы песьню аб шчасьці*
*Так глыбока, скуль нікому*
*І ніколі ня ўкрасьці.*
*А каб хто аб гэтай справе*
*Не сказаў дрэнным сказам,*
*Хаўтуры памінкі справіў*
*З пушчай, з ночкаю разам.*
*Быў і вецер на магіле*
*На абрадку бядачым,*
*І русалкі не забылі—*
*Шчырым плакалі плачам.*
*А цяпер адно паставіць*
*Толькі памятку важну,*
*Каб нябошчыцу праславіць,*
*Каб праславіць, як княжну.*
*Хай прыходзе ка мне тая*
*Чараўніца дзяўчына*
*Праз якую, так спраўляў я*
*Гэты сховы—ўспаміны.*
*І з грудзей маіх гарачых*
*Няхай выдзера сэрцо,*
*Ды на трох нажох стаячых*
*Хай нясе і сьмяецца.*
*Як паложа на магіле,*
*Дзе аб шчасьці сьпіць песьня,*
*Само сэрцо ў тэй-жа хвілі*
*Загарыцца, ускрэсьне.*
*І гарэці вечна будзе*
*На тым сховe—пасадзе,*
*І дадуцца дзіву людзі*
*Як кахаў я папраўдзе.*

Вільня 13-VII—15 г.

**Янка Купала.**

# Беларуская кроніка.

## Лёс Беларусі.

Пытаньне аб будучым лёсе Беларусі да гэтага часу яшчэ ня стала на пуці яго конкрэтнага разгляду. Па ранейшаму у політычных кіраўнічых кругох яшчэ стаяць на тэй аснове, што Расія павінна адмовіцца ад тых тэрыторыяў, якіе яна далучыла пасьля 1772 году. Гэта граніцы т. з. гістарычнай Польшчы. Граніцы этнографічнай Беларусі ляжаць далёка да усходу ад вышэйпа-

казанай гістарычнай мяжы. Польскіе політычные кругі яўна ня выказываюцца аб долі гэтых тэрыторыяў. Яны толькі кажуць аб тым, што насяленьне гэтых зямель павінно быць дадзено права выказацца аб сваім лёсе. Аб канечнай патрэбнасьці стварэньня беларускай дзяржавы гаворадь цяпер толькі соцыялістычные і радыкальные кругі. Але ў пытаньні аб заходняй мяжы Беларусі тут нічога вызначанага няма і тое, што прапануюць польскіе радыкалы і соцыялісты не адпавядае этнографічным фактам.

На 20-ае сакавіка Польская Партыя Соцыялістаў (P. P. S.) склікае конфэрэнцыю прадстаўнікоў соцыялістычных партыяў усіх народаў, якіе адрадзіліся на руінах бывшай Расіі!

У гэтай конфэрэнцыі прымуць так сама участце прадстаўнікі соцыялістычных партыяў Беларусі.

На гэтай конфэрэнцыі, трэба спадзявацца, паміж соцыялістычнымі элементамі ўсіх народаў, якіе цяпер адрадзіліся, дойдуць да поўнай згоды і надалей іх акцыя за вызваленьне і самавызначэньне народаў будзе вясьціся ў цесным контакце згрупаванымі сіламі.

Цяпер у Варшаву прыбылі прадстаўнікі Фінляндыі, Латвіі і Румыніі. Польскі урад вядзе з імі перагаворы ў справе аб супольных перагаворах з бальшавікамі і аб тых умовах, якіе павінны быць прад'яўлены савецкаму ураду. Вядома толькі, што ў свой час Фінляндыя, Латвія і Эстонія прызналі незалежнасьць Беларусі і ў тых дзяржавах ёсьць беларускае прадстаўніцтво. Трэба спадзявацца, што іх дзеі будуць пакіраваны ў бок прызнаньня Беларусі і дапамогі беларускаму народу.

Міравые перагаворы, як думаюць у варшаўскіх політычных кругох, пачнуцца ў канцы сакавіка. Гэтымі днямі будзе паслана офіцыяльная вестка аб месьце і часе перагавораў. Да таго часу, трэба думаць, і выясьніцца ці прымуць учасьце ў перагаворах прадстаўнікі беларускага народу і як вырашыцца лёс Беларусі.

### Нацыянальны рух.

Нацыянальны рух на Беларусі ў апошні час, дзякуючы энэргічнай працы сьвядомай часьці беларускай інтэлігэнцыі, значна павялічываецца.

Інструктары нацыянальнага камітэту паведамляюць аб вялікай зацікаўленнасьці сялянскіх масаў да беларускага руху. Па гарадох і вёсках адчыняюцца нацыянальные камітэты, культурна-прасьветные гурткі, організуюцца артыстычные гурткі, сельска-гаспадарскіе саюзы і коопэратывы. Усё павялічываецца запатрабаваньне на беларускае друкованае слово.

Увосень трэба чакаць значнага росту беларускіх школ.

Школьная рада пастанавіла організаваць выдавецкі аддзел дзеля выданьня беларускіх школьных падручнікаў і краснага пісьменства.

Патроху беларускі рух захоплівае і мясцовае зрусьфікованае і апалячанае грамадзянство.

### Беларусы на чужыне.

Беларусы на чужыне злучаны цяпер у колёніі, нацыянальные гурткі і г. д. У тых краёх, дзе прызнана незалежнасьць Беларусі усё беларускае грамадзянство зарэгістровано ў прадстаўніцкіх установах—місіях і консульствах і карыстаецца усімі правамі грамадзян саюзных дзяржаваў.

У Латвіі і Эстоніі ёсьць значные атрады беларусаў, якіе б'юцца на фронтах. Гэта зусім сталые баявые адзінкі, якіе слухаюцца агульнага камандаваньня. Ўнутранае жыцьцё і організацыя атрадаў носіць чыста нацыянальны характар. Латышскі урад выдаў у памяць беларускага атраду спэцыяльные маркі, якіе вельмі пекна выглядаюць.

На Літве беларускіе часьці пры дапамозе міністэрства беларускіх спраў выпускаюць свае часопісі на роднай мове.

Значные колёніі беларусаў ёсьць у Бэрліне і Праземе. Беларуская місія, якая знаходзіцца ў Бэрліне, галоўным чынам, працуе над разьвіцьцём нацыянальнага асьведамленьня сярод палонных беларусаў, бывшых салдатаў расійскай арміі.

---

## Аба ўсім патроху.

### Колькі ў Расіі было змобілізовано жаўнераў у вайну 1914—17 г.

| | |
|---|---|
| 1. У пачатку мобілізацыі 1914 г. было на дзейнай службе | 1.362.000 |
| 2. З пачатку мобілізацыі ўзята: | |
| а) запасных жаўнераў | 3.115.000 |
| б) апалчэнцаў I разраду | 3.300.000 |
| в) рэкрутаў за 1914-18 г. | 3.500.000 |
| г) апалчэнцаў II разраду | 3.000.000 |
| д) перагледжаных белабілетнікаў | 250.000 |
| Усяго ўзята | 14.500.000 |
| 3. Забітых, ламёршых з ранаў і хваробаў, атручаных газамі, згінуўшых бяз ведама і зусім звольненых са службы | 1.061.000 |
| 4. У палоне | 2.378.000 |

(*„Советский календарь 1919 г.“*)

Рэдактар і выдавец **Францішак Аляхновіч**. Літэратурны кіраўнік **Зьмітрок Бядуля**.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: **Менск, вул. Міцкевіча, Беларускі Дом** (бывш. Юбілейны).

Рэдакцыя адчынена **ад 11 да 1**. Адміністрацыя—**ад 9 да 2**.



З дазв. вайсков. цэнзуры 18/3 1920 г., за № 140. Менск. Друкарня Інвалідаў.